Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

МАСАВА-ПАЛІТЫЧНЫ ШТОТЫДНЁВІК

# Газета Слонімская

№23 (313) 5 — 11 чэрвеня 2003 г. Наклад 11.300 экз. Кошт 400 руб.

«ГАЗЕТУ СЛОНІМСКУЮ» ЧЫТАЮЦЬ

Слонім, Зэльва, Дзятлава, Масты, Ваўкавыск, Шчучын, Ліда, Гродна, Баранавічы, іншыя гарады Беларусі, а таксама на HTTP://gs.promedia.by



# БЫВАЙ, ШКОЛА!

*Выпускнікі 10 школы 11[б] класа ў гарадскім парку пасля апошняга званка 30 траўня 2003 года*

Фота Віталя ГІЛЯ

У школах празвінеў апошні званок. Пачаліся летнія канікулы. Але сёлетнім выпускнікам сельскіх і гарадскіх школ пакуль адпачываць не прыйдзецца. Іх наперадзе чакаюць выпускныя экзамены і нялёгкія выпрабаванні перад паступленнем у вышэйшыя і сярэдне-спецыяльныя навучальныя ўстановы.

У гэтым годзе са школаю развітаюцца ў Слоніме 536 адзінаццацікласнікаў, а ў раёне ўсяго 128. Базавую адукацыю сёлета атрымаюць 859 гарадскіх хлопчыкаў і дзяўчынак і 255 сельскіх. Як складзецца жыццёвы лёс гэтых маладых людзей — будзе залежаць найперш ад іх саміх. Але настаўнікі, бацькі і сябры жадаюць ім шчаслівай дарогі ў самастойнае нялёгкае жыццё, удач і перамог.



КУРСЫ ОБМЕНА ВАЛЮТ ПО СОСТОЯНИЮ НА 3 ИЮНЯ 2003 ГОДА

| "Беларусбанк" | | |
|---|---|---|
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 2010 | 2055 |
| 1 EURO | 2350 | 2480 |
| 1 ZL | 520 | 550 |
| 1 RUR | 65 | 68 |
| оао "Белпромстройбанк" | | |
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 2025 | 2055 |
| 1 EURO | 2370 | 2440 |
| 1 ZL | 525 | 555 |
| 1 RUR | 64,5 | 67 |
| "Белагропромбанк" | | |
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 2020 | 2050 |
| 1 EURO | 2370 | 2440 |
| 1 ZL | 480 | 560 |
| 1 UAH | 350 | 400 |
| 1 RUR | 64 | 67 |
| Нацбанк РБ | | |
| 1 USD | 2043 | |
| 1 EURO | 2387,55 | |
| 1 RUR | 66,67 | |

НАВІНЫ

## У СЛОНІМЕ МЕНІНГІТ НЕ ЗАРЭГІСТРАВАНЫ

**Наша газета ўжо пісала аб тым, што ў Гродне зарэгістравана ўспышка менінгіту.**

З падазрэннем на гэтую хваробу ўжо шпіталізавана каля 200 чалавек. Выпадкі захворвання на серозны менінгіт зарэгістраваны і ў вёсках Гродзенскага раёна. Як бачыце, хвароба пашырае свае межы.

Некалькі дзяцей з падазрэннем на гэтую хваробу былі шпіталізаваны і ў Слоніме. Але дыягназ, дзякаваць Богу, не пацвердзіўся. Аб гэтым карэспандэнту "ГС" паведаміла загадчыца эпідэміялагічным аддзелам Слонімскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Алена Дабрыян. "Паколькі серозны менінгіт распаўсюджваецца кантактна-бытавым і паветрана-кропельным шляхамі, — сказала Алена Ігараўна, — меры прафілактыкі павінны быць, як і пры кішэчных інфекцыях. Трэба рэгулярна мыць рукі, асабліва перад ужываннем ежы, сырую ваду абавязкова трэба кіпяціць, мыць садавіну і агародніну.

Нельга ні ў якім выпадку купляць садавіну і агародніну там, дзе гандаль імі не ўстаноўлены. Таму што невядома, адкуль гэтыя садавіна і агародніна прывезены і хто імі гандлюе.

Тым не менш, пачаўся сезон адпачынку, і верагоднасць захварэць на гэтую інфекцыйную хваробу ўсё ж ёсць. Але сёння пакуль панікаваць не трэба".

**Сяргей ЧЫГРЫН**



РАСЦЕНКИ

на рекламные услуги в "Газеце Слонімскай":

Строчная (частная) реклама .............. — 4000 руб. (повтор бесплатно),
Поздравление без фото .................... — 5000 руб.,
Поздравление с фото ....................... — 5500 руб.,
Соболезнование, благодарность ........ — 3000 руб.,
Модульная реклама — 1 кв.см ........... — 813 руб.

Последний срок подачи рекламы в текущий номер — **понедельник 18.00.**
**Время приема рекламы с 9.00 до 18.00, воскресенье — с 11.00 до 16.00, выходной — суббота.**

ВЫТВОРЧАСЦЬ

# ХЛЕБ З ЧЭШСКАЙ ПЕЧЫ

**Незвычайнае ажыўленне панавала 28 траўня ў цэхах Слонімскага хлебазавода. У гэты дзень у прысутнасці гасцей з Чэхіі на прадпрыемстве ўрачыста адкрылі абноўленую лінію па выпечцы падавога хлеба.**




*Дырэктар хлебазавода Алег Лакцюшын, чэшскія госці і спецыялісты прадпрыемства каля транспарцёра на выхадзе гатовай прадукцыі з новай печы*

Абнавілі лінію чэшскія спецыялісты, якія змантціравалі пастаўленую з Чэхіі новую печ, на ўваходзе і выхадзе гатовай прадукцыі якой замацаваны шыльдачкі з надпісам PROKOP.

Як патлумачыла начальнік лабараторыі хлебазавода Таццяна Кобатава, новая печ мае шэраг перавагаў перад старой айчыннай. У ёй можна выстаўляць і рэгуляваць тэмпературу па зонах выпечкі, хлеб з чэшскай печы выходзіць добрай якасці і заўсёды мае таварны выгляд. Час выпечкі складае 30 мінут, цеста настойваецца 40 мінут, на яго бражэнне траціцца паўтары гадзіны, і, прыкладна, 10 мінут ідзе на замес. Калі тэхналогія вытрымліваецца, то новая печ забяспечвае паточны рэжым вытворчасці. Яе прадуктыўнасць складае 580 кілаграмаў хлеба ў гадзіну. Аднак, як адзначыў дырэктар хлебазавода Алег Лакцюшын, пытанне з колькасцю хлеба, які выпякаецца на прадпрыемстве, не стаяла і раней — хлебазавод выпякае столькі хлеба, колькі заказваюць гандлёвыя арганізацыі горада і раёна. А вось яго якасць павінна быць значна лепшай, што і прызвана забяспечыць новая печ. Акрамя таго, яна больш тэхналагічная, з сучасным аўтаматычным абсталяваннем, якое аблягчае працу персанала абслугоўвання.

А працаваць на выпечцы хлеба летам — справа нялёгкая. Тэмпература каля печы значна вышэй за 30 градусаў па Цэльсію. Стаяць каля печы, традыцыйна, жанчыны. Ад гарачыні іх не ратуе летам і сістэма вентыляцыі. Аднак работніцы ведаюць і любяць сваю справу. Падчас пробных выпечак жанчыны ўжо паспелі адзначыць вартасці новай хлебадаўцы. Рабочая Таццяна Данілюк, у прыватнасці, адзначыла, што цяпер на лініі выпечкі падавога хлеба працаваць будзе лягчэй, і работніцы з задавальненнем асвойваюць новую печ. А на сталах жыхароў Слонімшчыны павінен з'явіцца больш якасны чорны хлеб.

**Мікола КАНАНОВІЧ**




*Перад пасадкай сырых боханаў новую печ палівалі шампанскім (з бакалам шампанскага — намеснік старшыні райвыканкама Анатоль Фідрык)*

НАВІНЫ

## НЕБЯСПЕЧНА БЫЦЬ НАЧАЛЬНІКАМ

**У апошнія дні па Слоніму хадзілі чуткі пра загадчыка аддзела гандлю і бытавых паслуг Слонімскага райвыканкама Уладзіміра Сароку.**

Людзі казалі, што ён, нібыта, праштрафіўся і яго пазбавілі гэтай пасады.

Карэспандэнт "ГС" звязаўся па хатнім тэлефоне з Уладзімірам Вітальевічам, які сказаў, што ён, сапраўды, звольніўся па асабістаму жаданню і ўжо не ўзначальвае аддзел гандлю. Цяпер ён адпачывае. Хто зойме яго пасаду, Уладзіміра Сароку менш ўсяго цікавіць. А наконт таго, што на яго месца прэтэндуюць Алег Бярдула і Міхаіл Дмухоўскі, ён пра гэта не ведае. Дарэчы, дырэктар Слонімскага маслазавода Міхаіл Дмухоўскі цяпер знаходзіцца ў водпуску. Абавязкі дырэктара выконвае Аляксандр Красніцкі. Відаць, ён і будзе ў бліжэйшы час прызначаны на пасаду дырэктара Слонімскага маслазавода. Аб гэтых і іншых кадравых ракіроўках мы яшчэ паведамім.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## СЛОНИМЧАНЕ УВИДЯТ СЕБЯ НА ЭКРАНАХ

**Телевизионные съемки в рамках передачи «Точка зрения» прошли в минувшую пятницу в помещении диско-бара «Оскар».**

На ток-шоу обсуждались вопросы, насколько легко в наше время поступить провинциалам в высшее учебное заведение столицы, есть ли возможность получить высшее образование в маленьких городах. Участие в программе приняли представители современного гуманитарного университета, студенты ВУЗов, выпускники школ Слонима.

Тема второй съемки — проблема равенства мужчины и женщины. Различные точки зрения высказывались по этому поводу, а к единому знаменателю так и не пришли.

Увидеть эти передачи слонимчане смогут в июне на украинском музыкальном канале кабельного телевидения. Трансляции пройдут в четверг и пятницу в 19.30. В какие именно четверг и пятницу состоятся трансляции, будет дополнительно сообщено в «ГС».

**Николай РОДИОНОВ**

## ЦЕНТР ЗАНЯТОСТИ ПЕРЕЕЗЖАЕТ

**Слонимчане с прошлого года терялись в догадках, кто въедет в реставрируемый дом напротив здания ГАИ и паспортно-визовой службы.**

Выясняется, что хозяином здания является Слонимский районный Центр занятости населения. Помещений на первом этаже здания Белгосстраха для работы с безработными уже стало не хватать. Теперь же с этой проблемой покончено.

Осталось окультурить близлежащую территорию, завершить внутренние отделочные работы, ну, обжить работникам Центра новые кабинеты и приступить к работе, которая, кстати, и ранее не прекращалась.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ГЛЫБІНКА

# АДЗІН КАЛОДЗЕЖ НА ЎСЮ ВЁСКУ

**Даехаць да вёскі Палатніца Слонімскага раёна вельмі складана. Яна знаходзіцца амаль на мяжы Баранавіцкага раёна, сярод лесу, праз які ідзе разбітая машынамі і дажджом вузкая дарога.**



*На ўсю Палатніцу — адзін калодзеж*

Дабрацца пенсіянерам з вёскі Палатніца ў горад можна толькі двума шляхамі: ісці пяшком некалькі кіламетраў да Нагуевіч, а там на папутках даехаць да горада, ці топаць да чыгуначнай станцыі Іўная, адкуль надзейная электрычка давязе да Слоніма. Другі шлях апрабаваны найлепш, яго і выкарыстоўваюць пенсіянеры з гэтай слонімскай глыбінкі.

Вёска Палатніца некалі была шматлюдная і яе ніхто не лічыў неперспектыўнай. У вёсцы нават быў вадаправод, людзі трымалі добрую хатнюю гаспадарку, тры разы на тыдзень мясцовая паштальёнка прыносіла з Харашэвічаў газеты, часопісы і пісьмы. Гэтая паштальёнка ўжо на пенсіі, жыве яна са сваім мужам у той жа Палатніцы. Завуць як Клаўдзія Данілаўна Шмуцінская.

"Цяпер газеты і часопісы ніхто да нас не носіць, — расказвае Клаўдзія Данілаўна, — бо ніхто іх у нас не выпісвае. У вёсцы нашай жыве толькі пяць чалавек. Няма даўно ў Палатніцы магазіна, не прыязджаюць сюды аўтобусы, няма ні ў кога тэлефона, не трымаем мы ўжо кароў, хоць пашы тут хапае... Вось так і жывём".

Сапраўды, пяць палатніцкіх пенсіянераў жывуць у сваёй роднай вёсцы, як на востраве. На ўсю вёску адзін толькі калодзеж, вельмі глыбокі і выкапаны даўно. Без яго жыць тут было б немагчыма. Бо новую студню выкапаць, як не спрабавалі мясцовыя мужыкі, так ім і не ўдалося дабрацца да крыніц. Таму і берагуць студню, як вока.

Мужыкі-пенсіянеры ўсё сваё жыццё аддалі лесу, працавалі леснікамі. Адзін з іх — Уладзімір Салейка — працуе і цяпер. Аб гэтым нам сказала яго жонка Лідзія Іосіфаўна. З вуснаў жанчыны мы таксама даведаліся, што яны і сям'я Шмуцінскіх трымаюць коней, бо без іх тут проста было б цяжка. "Трэба і бульбу пасадзіць, і пад'ехаць на станцыю, і дзяцей тады-сяды сустрэць. Конь ратуе нас і гаспадарку," — прызналася вясковая жанчына.

А вось сабак на панадворках у Палатніцы мы так і не ўбачылі. Не трымаюць іх вяскоўцы.

— Навошта нам гэтыя сабакі! — адказала Клаўдзія Шмуцінская.

— Ваўкі на вас могуць напасці, ці яшчэ якія звяры, а сабакі вас аберагалі б.

— Ніякіх ваўкоў тут няма. А вось дзікоў хапае, усю бульбу перарыюць, — скардзілася жанчына.

— А чаму куры на панадворку не бегаюць?

— Трымалі і курэй, але падушыў іх такі звярок, мы яго называем ласка. Прыбягае днём і душыць іх. Цяпер вырашылі абыйсціся без гэтых хатніх птушак, — прызналася жыхарка Палатніцы.

У лясной глыбінцы мы яшчэ сустрэліся і пагутарылі з лесарубамі — маладымі хлопцамі, якія працуюць на ачыстцы лесу. Кватаруюць яны ў адной з пустых хат, а на выхадныя дні едуць дамоў. Хлопцы нам паказалі лепшую лясную дарогу на Слонім, і мы ціха пакінулі забытую вёсачку.

**Сяргей ЧЫГРЫН, фота Віталя ГІЛЯ**

ЗДАРЭННІ

## УГНАНУЮ МАШЫНУ ЗНАЙШЛІ КАЛЯ ЧАМЯРОЎ

**У ноч з мінулай суботы на нядзелю са стаянкі каля дома ў мікраraёне "Энка" быў угнаны аўтамабіль "Жыгулі" шостай мадэлі, які належыць мясцоваму жыхару.**

Аднак аўтамабіль хутка знайшлі ў лясе каля вёскі Чамяры.

Хто вырашыў пакатацца на чужым аўто, цяпер высвятліць міліцыя.

## ЗЛОДЗЕЯМІ АКАЗАЛІСЯ СЁСТРЫ-ЦЫГАНКІ

**На мінулым тыдні ў выніку пошукавых мерапрыемстваў работнікі крымінальнага вышуку затрымалі дзвюх сясцёр-цыганак, якія займаліся крадзяжамі кашалькоў сланімчанак у грамадскім транспарце.**

Як высветлілася, кішэнныя зладзейкі жывуць у Брэсцкай вобласці. Гастралёркам цяпер прыйдзецца адказваць за свае злачынныя дзеянні па закону.

## ЗНІКЛІ ЗАПЧАСТКІ І АСАБІСТЫЯ РЭЧЫ

**Днямі з заявай у міліцыю звярнуўся сланімчанін Ш., які паведаміў, што ў перыяд з 9 траўня па 1 чэрвеня з хаты яго бацькоў, што на Баранавіцкай вуліцы, зніклі запасныя часткі ад матацыклаў і асабістыя рэчы мужчыны.**

Па ўказаных у заяве фактах работнікі міліцыі праводзяць праверку.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ФЕМІДА

# АСЦЯРОЖНА, АЛІМЕНТЫ!

**У мінулым годзе за няўплату аліментаў на дзяцей судом Слонімскага раёна супраць бацькоў было ўзбуджана 30 крымінальных спраў па 174 артыкулу Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. А за першы квартал бягучага года па гэтаму артыкулу ўзбуджана ўжо 15 спраў.**



Па дзеючаму заканадаўству ў Беларусі бацькі павінны ўтрымліваць сваіх непаўнагадовых дзяцей і паўнагадовых непрацаздольных, якія маюць патрэбу ў дапамозе. Але пры ўсіх абставінах аліменты з бацькоў спаганяюцца да 18 гадоў. Калі бацькі пазбаўлены правоў і дзіця перададзена ў апякунскую сям'ю ці ў спецустанову, то аліменты з бацькоў спаганяюцца не на карысць дзяцей, а на карысць органа апекі. За ўхіленне бацькамі ад уплаты ўскладзеных судом аліментаў 174 артыкул Крымінальнага кодэкса прадугледжвае крымінальную адказнасць. Калі на працягу года чалавек не плаціць аліменты тры месяцы, то прыцягваецца судом да крымінальнай адказнасці. Па частцы 1 артыкула 174 КК неплацельшчыку пагражаюць грамадскія работы, папраўчыя работы да 2 гадоў, арышт да 6 месяцаў ці абмежаванне свабоды (пасяленне) да 3 гадоў. Калі ж неплацельшчык быў асуджаны, але пасля адбыцця пакарання па першай частцы названага артыкула не адумаўся і працягваў не плаціць, то ў наступны раз яго могуць прыцягнуць да адказнасці ўжо па 2 частцы артыкула 174 КК, дзе прадугледжваецца пазбаўленне свабоды тэрмінам да двух гадоў.

За красавік і травень бягучага года суддзя Слонімскага райсуда Тамара Хамінец разгледзела 9 спраў па неплацельшчыках аліментаў. Пяць з іх аб'ядноўвае тое, што бацькі пазбаўлены бацькоўскіх правоў. Жывуць яны ў сваё задавальненне і пра дзяцей даўно забыліся.

Так муж і жонка Герасімчыкі з вёскі Васілевічы жывуць у прыватызаванай 2-пакаёвай кватэры з усімі выгодамі. У калгасе не працуюць, звольніліся за п'янку, хоць у гаспадарцы і існуе дэфіцыт рабочай сілы. 20 студзеня 2002 года яны былі пазбаўлены бацькоўскіх правоў на двух дзяцей, якія знаходзяцца ў дзіцячым доме. Аліменты на іх не плацяць.

Іна Паўлава (1975 года нараджэння) нарадзіла і кінула сваё дзіця ў бальніцы. Дзіця забрала маці маладой жанчыны. Пасля чаго апошняя сышла з дому. Доўгі час нідзе не працуе. Захапляецца алкаголем, уводзіць сабе піяты (наркатычныя рэчывы).

Ірына Хайруліна (1975 г.н.) мела сям'ю. У 1993 годзе нарадзіла сына. Захапляецца алкаголем. Сям'я распалася. Сын застаўся з былым мужам. Пазбаўлена бацькоўскіх правоў. Ад уплаты аліментаў ухілялася.

Жыхарка вёскі Савічы Вікторыя Бобік (1982 г.н.) нарадзіла дваіх дзяцей без мужоў. Пазбаўлена бацькоўскіх правоў, бо ні яна сама, ні яе бацькі ўтрымліваць дзяцей не маглі. Аліменты не плаціла.

Неаднойчы судзімы Сяргей Рудэнок (1970 г.н.) бацькоўскіх правоў не пазбаўлены. Але на сваю дачку не плаціў аліменты 20 месяцаў. Мікалай Булыга таксама не пазбаўлены сваіх бацькоўскіх правоў — аліменты на сына не плаціць. Раннія бацькі Дзмітрый Дуброўка (1980 г.н.) і Віктар Трафімовіч (1975 г.н.) таксама ўхіляліся плаціць грошы на сваіх дзяцей.

Усіх названых вышэй неплацельшчыкаў прыцягнулі да крымінальнай адказнасці па 1 частцы артыкула 174. Пакаранне кожны атрымаў рознае. І калі пасля адбыцця пакарання былы асуджаны тры месяцы на працягу года зноў не будзе плаціць аліменты, то яго чакае пакаранне па другой частцы артыкула — пазбаўленне свабоды да трох гадоў.

**P.S.** Працаздольныя бацькі вызваляюцца ад уплаты аліментаў толькі на перыяд хваробы ці водпуску па дагляду нованароджанага. Нават страта працы не па віне работніка не з'яўляецца па дзеючаму беларускаму заканадаўству падставай для няўплаты аліментаў.

**Мікола КАНАНОВІЧ**



ЮРИСТ



## КАКИЕ ДЕЙСТВИЯ РАБОТНИКОВ НЕ МОГУТ БЫТЬ КВАЛИФИЦИРОВАНЫ КАК ПРОГУЛ?

**Трудовое законодательство Республики Беларусь определяет порядок и мотивы увольнения работников за прогул (неявку на работу в течение рабочего дня), в том числе ввиду отсутствия на работе непрерывно или суммарно более трех часов в течение рабочего дня без уважительных причин (п. 5 ст. 42 ТК РБ).**

На практике возникает немало вопросов, связанных с правомерностью применения нанимателями при увольнении работников пункта 5 статьи 42 Трудового кодекса Республики Беларусь.

Какие действия работников нельзя квалифицировать как прогул?

• неявку молодых специалистов по месту распределения после окончания учебных заведений, если они не состоят в трудовых отношениях с нанимателями;

• нарушение учебного распорядка и дисциплины работниками (пропуск занятий по неуважительным причинам), которых наниматель направил на курсы повышения квалификации;

• отстранение от работы работника (например, вследствие нахождения его в состоянии опьянения);

• неявку на работу работников вследствие не обеспечения нанимателями здоровых и безопасных условий труда;

• неявку на работу в связи с участием в забастовке (однако, отказ от выхода на работу на следующий день после признания забастовки незаконной может повлечь увольнение работника за прогул);

• отказ от выхода на работу в выходной или праздничный нерабочий день, другое нерабочее время, если наниматель не обеспечил право работников на отдых и самопривлечение к вышеназванным работам производится с нарушением законодательства;

• использование работниками дней отдыха в случае, когда наниматель в нарушение законодательства отказал в их предоставлении и время использования таких дней отдыха не зависит от усмотрения нанимателей (например, донорам);

• отказ работников прервать отпуск и выйти на работу (даже если в коллективных договорах определены обстоятельства отзыва из отпуска);

• отказ работников от продолжения работы в связи с изменением существенных условий труда, вызванных обоснованными производственными, организационными или экономическими причинами, если работник не согласен на продолжение работы в новых условиях труда;

• неявку на работу в связи с отказом работника от перевода на работу в другую местность вместе с нанимателем, либо в связи со сменой собственника имущества и реорганизацией предприятия;

• неявку на работу, на которую работник переведен или перемещен с нарушением законодательства (например, без его согласия, когда оно обязательно);

• если работник ежедневно является на работу, но неправомерно отказывается выполнять возложенные на него трудовые обязанности;

• отсутствие на работе в связи с изменением графика или распорядка работы, о которых работник не извещен нанимателем;

• отсутствие на работе в связи с административным арестом;

• нахождение работника без уважительных причин более трех часов вне рабочего места, но на территории предприятия (объекта), где он обязан выполнять свои трудовые обязанности;

• отсутствие на работе непрерывно или суммарно без уважительных причин три часа;

• замена сменами в течение суток без уважительных причин (а вот самовольная замена сменами без уважительных причин на протяжении недели, месяца и иных календарных периодов являются прогулом);

• невыход на работу в связи со сдачей экзаменов и зачетов в учебных заведениях без надлежащего оформления учебного отпуска.

Доказать факт прогула работника должен наниматель, который обязан осуществлять учет явки на работу и уход с нее.

А обязанность доказать наличие уважительных причин невыхода на работу возлагается на самого работника.

И еще. Никто другой, кроме должностного лица, обладающего правом приема и увольнения работников, квалифицировать отсутствие на работе в качестве прогула не может и не имеет права.

**Сергей ГЕРАСИМЧИК, юрисконсульт «Газеты Слонімскай»**

ГОРАД

# ПАТУШАНЫЯ СЛОНІМСКІЯ ФАНТАНЫ


Фота з архіва "ГС"

Фантан у слонімскім парку, пачатак 80-х гадоў

**Кожны горад мае сваю адметнасць. Адны гарады запамінаюцца надоўга сваімі архітэктурнымі помнікамі, другія — чысцінёй вуліц і плошчаў, кветкамі і зялёнымі дрэвамі, а іншыя — разнастайнымі фантанамі.**

Санкт-Пецярбург заўсёды славіўся і славіцца вялікай колькасцю арыгінальных фантанаў, без якіх паўночная сталіца Расіі была б не такой прывабнай, як з імі. А ў Швецыі, напрыклад, кожны горад і правінцыйны гарадок мае па некалькі дзесяткаў розных фантанаў і фантанчыкаў. Гэтым яны і запамінаюцца турыстам і тым, хто проста там пабывае.

Не такія ўжо бедныя на фантаны і беларускія гарады. Адзін з першых фантанаў з'явіўся ў Мінску ў 1874 годзе ў скверыку каля Акадэмічнага Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы. Маюць свае фантаны і раённыя цэнтры, нават пасёлкі. Ёсць фантаны і ў Шклове, хаця пра такі беларускі ўсходні гарадок хто калі чуў. Жыхары Магілёўшчыны і Гомельшчыны ў савецкі час ведалі Шклоў хіба што па агурках. Там, у цяпліцах, шклаўчане раней за ўсіх вырошчвалі агуркі і гандлявалі імі ва ўсходніх раёнах Беларусі. Ну, а цяпер мы ведаем Шклоў па тым, што адтуль родам наш Рыгоравіч. І ці не па яго загаду пачалі дзейнічаць у Шклове фантаны. Можа дачакаемся і мы калі-небудзь слонімскага прэзідэнта, які загадае аднавіць у горадзе над Шчарай тыя фантаны, якія некалі радавалі мясцовых жыхароў і гасцей горада. Хаця, прычым тут прэзідэнт. За фантаны павінна адказваць жыллёва-камунальная гаспадарка і водаканал. Прыгажосць горада, адпачынак і дабрабыт гараджан найперш залежыць ад вышэй названых службаў.

У мінулым годзе Слонім адсвяткаваў сваё 750- годдзе. Але ніхто з чыноўнікаў так і не прапанаваў і не паруліўся аднавіць хаця б адзін з тых трох фантанаў, якія былі ў Слоніме. А спалучэнне цякучай вады са старажытнай і новай архітэктурай нашага горада надало б Слоніму новую прыгажосць і разнастайнасць розных дэкаратыўных кампазіцый. Горад ад гэтага памаладзеў бы, пасвяжэў бы ад гарачыні і пылу.

А фантаны ў Слоніме былі. Адзін у парку, другі ў Альбярціне і трэці каля фабрыкі мастацкіх вырабаў. Час і халатныя адносіны былых кіраўнікоў гарвыканкама, а таксама спад эканомікі горада, патушылі крыніцы жывой вады.

Адзін з апошніх фантанаў у Слоніме з'явіўся каля фабрыкі мастацкіх вырабаў. Не адну машыну цэменту затрацілі на яго пабудову. А калі будаўніцтва было завершана і заструменіла вада – фантан здалёк вабіў вочы тых, хто ехаў праз Слонім ці праходзіў побач. Каля яго збіралася моладзь з гітарамі, а ў самім басейне паласкаліся ў вадзе пад сонцам дзеці. Праўда, фантан працаваў не штодзённа, а часцей за ўсё на святы, ці тады, калі на фабрыку мастацкіх вырабаў прыязджалі госці. Тым не менш, фантан там быў.

Толькі аснова для струменяў вады і басейнае збудаванне засталіся ад фантана ў парку. Былі побач і скульптурныя казулі, якія дапаўнялі фантан, але і іх ужо ў парку няма. І гэта было адзінае месца ў парку, дзе людзі маглі адпачыць і палюбавацца штучным струменем крыніцы.

Фантан у Альбярціне знаходзіўся непадалёку ад сядзібы Пуслоўскіх. Старэйшыя жыхары Альбярціна памятаюць прыгожую скульптурку хлопчыка, які з конаўкі ліў ваду ў басейн. Але зімою ў гэтым басейне мясцовыя падлеткі гралі ў хакей, а сам фантан знаходзіўся ў цэнтры. Вось аднойчы яны і развіталіся з гэтым арыгінальным фантанам, каб не перашкаджаў бегаць з клюшкамі за шайбаю. Прайшоў час, няма ў Альбярціне ўжо ні фантана, ні хакейнай пляцоўкі...

Італьянскае слова "фантан" азначае "крыніца". А крыніцы заўсёды ачышчалі нашы душы струменьчыкамі чыстай вады. Але душы маюць і гарады. Ці ачысцім мы іх?

**Сяргей ЧЫГРЫН**


Фота Віталя ГІЛЯ

Каля фабрыкі мастацкіх вырабаў, у Альбярціне і ў гарадскім парку некалі былі фантаны

ПОЧТА

# «РАДИ ЧЕГО Я РАБОТАЛА НА ЭТОМ ПРЕДПРИЯТИИ?..»

*Здравствуйте, уважаемая редакция! Пишет вам инвалид труда 2-ой группы, пенсионерка Петрученя Нина Алексеевна. Решила написать в вашу газету, так как хочется рассказать всем людям об отношении руководства Слонимской фабрики «Текстильщик» к своим пенсионерам, людям, которые всю свою жизнь отдали фабрике, строили её, осваивали новые технологии производства, но так и не заслужили элементарного уважения, чисто человеческого отношения и понимания со стороны нынешнего руководства предприятия.*

*Устроилась я на фабрику в 1955 году. Тогда мне было 19 лет. Работала сначала ткачихой. Выполняла по три нормы в смену. Всегда была в передовиках производства. Потом по состоянию здоровья перешла работать в копировальный отдел копировальщицей. В 1986 году стала инвалидом труда 2-ой группы, проработав на фабрике почти 32 года. За всё это время, с 1986 года, я ни разу не обратилась к руководству фабрики за помощью. Жила как могла.*

*10 мая 2003 года у меня умер муж. После похорон я решила обратиться на фабрику с просьбой оказать мне помощь в связи со смертью мужа. Насколько мне известно, на предприятиях оказывают такую помощь своим пенсионерам. Председателя профкома фабрики Герасимчик Ольги Александровны на рабочем месте не оказалось, и я решила зайти к директору Житкевич Тамаре Васильевне. Однако секретарь директора, узнав по какому вопросу я пришла, к директору меня не пустила, а нашла председателя профкома, которая вышла из соседнего кабинета и сразу же сказала, что для чужих фабрика такую помощь не оказывает, что, мол, для своих работников и то денег нет. Во время нашего разговора из своего кабинета вышла директор фабрики Т.В. Житкевич и, даже не пригласив меня в кабинет, тут же в коридоре отказала в моей просьбе. Мне стало больно и обидно. Не за то, что мне не была оказана помощь. Я понимаю, сейчас время тяжёлое, денег ни у кого нет. Но в тот момент мне хотелось больше сочувствия, понимания. Может быть, каких-то добрых слов, человеческого общения, а от меня отмахнулись, как от назойливой мухи.*

*Так ради чего я жила, работала на этом предприятии, если сейчас, после стольких лет отданного фабрике труда и моего здоровья, я стала для директора и председателя профкома чужой?*

**Нина ПЕТРУЧЕНЯ**

**P.S.** Прокомментировать письмо Нины Алексеевны корреспондент «ГС» попросил директора фабрики «Текстильщик» Тамару Житкевич.

Как пояснила Тамара Васильевна, их предприятие не оказывает помощь в похоронах мужей (жён) пенсионеров, так как на это нет средств и в коллективном договоре такие услуги не оговорены.

Если же умирает сам пенсионер, бывший работник фабрики, и его родственники просят помочь в похоронах, то тогда, по возможности, такая помощь оказывается, как и оказывается она действующим работникам предприятия, отметила Тамара Житкевич.

**Микола КОНОНОВИЧ**

ВОЛКОВЫСК

## ВЫСТАВКА ХУДОЖНИКА СТАНИСЛАВА КУЗЬМАРА

**В художественной галерее Европейского гуманитарного университета (ЕГУ) открылась первая в Минске персональная выставка художника из Волковыска Станислава Кузьмара.**

Как сообщила на открытии экспозиции директор галереи Татьяна Бембель, эту выставку впервые самостоятельно подготовили студенты 4-го курса, прослушавшие курс менеджмента художественных проектов, — Елена Кушнир, Ольга Шейнкман и Екатерина Янчевская.

В экспозиции представлены живописные работы С.Кузьмара последних 15 лет: пейзажи, изображающие древние архитектурные памятники, ландшафты, а также тематические картины.

Станислав Кузьмар родился в 1957 году в деревне Квасовичи Брестской области, окончил отделение графики Белорусской академии искусств, активно участвует в республиканских и международных выставках, работает в книжной графике. Он выполнил иллюстрации к 20 книгам современных писателей, в том числе к роману Владимира Короткевича "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". Является членом Белорусского союза художников.

**Лавиния ОРЕШКО**

МАСТЫ

## ЗАТРЫМЛІВАЮЦЬ НЕБЯСПЕЧНЫХ ЗА РУЛЁМ

**У межах аднаго дня бяспекі супрацоўнікі Мастоўскага РАУС правялі шэраг адпаведных мерапрыемстваў.**

На тэрыторыі толькі аднаго Луненскага сельсавета было затрымана пяць п'яных кіроўцаў аўтамабіляў.

**Антон МАКЕЙ**

ШКОЛА

# КАНЦЭРТ У ЖЫРОВІЧАХ



*Аркестр народных інструментаў*



*Гітарысты Аляксандр Ажэрэльеў і Андрэй Купінік*



*Дамбрыстка Таня Скарупіч*

**27 траўня ў Жыровіцкай музычнай школе адбыўся штогадовы справаздачны канцэрт вучняў і выкладчыкаў.**

Як адзначыў дырэктар школы Георгій Абрамовіч, адметнасць сёлетняга канцэрта была ў тым, што ўпершыню за многія гады ён праходзіў пад адкрытым небам.

У гэтым навучальным годзе ў Жыровіцкай музычнай школе 12 выкладчыкаў вучылі музыцы 65 вучняў па класу баяна, акардэона, фартэпіяна, гітары, домбры, цымбалаў і скрыпкі. Акрамя таго ў школе працуе аркестр народных інструментаў, вакальная група і невялікі хор.

Сёлета пасведчанні аб заканчэнні школы атрымалі восем выпускнікоў, а іх бацькам дырэкцыя ўручыла лісты падзякі за добрае выхаванне дзяцей.

Трэба адзначыць, што сёлета на музычным конкурсе імя Жыновіча ў Лідзе ў другі тур прайшлі навучэнцы Жыровіцкай музычнай школы Аліна Гурская, Марына Пятрашка (цымбалы), Вера Бондарава (домбра) і Ігар Лойка (баян).

Пасільную дапамогу ў навучанні таленавітых вясковых дзяцей (школу наведваюць вучні з Жыровіч, Шылавіч і іншых вёсак) адміністрацыі школы аказваюць аддзел культуры Слонімскага райвыканкама і настаяцель Жыровіцкага манастыра ўладыка Гурый.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

МАСТЫ

## НЯМЕЦКІ СТАНОК НЕ ЛЮБІЦЬ НАШ АЙЧЫННЫ ШПОН

**У фанерным цэху ААТ "Мастоўдрэў" быў уведзены ў эксплуатацыю новы нямецкай станок фірмы "Купер"па рэбрасклейванню шпона.**

Гэта ўжо другі станок, што быў зманціраваны ў цэху гэтай фірмы ад пачатку бягучага года. Мадэрнізацыя вытворчасці не толькі павялічвае якасць фанеры, але і аб'ём яе выпуску, акрамя таго робіць фанеру канкурэнтназдольнай на сусветным рынку. Аднак, як высветлілася, імпартнае абсталяванне не ўспрымае нашага шпона з-за якасці лушчэння. Таму, магчыма, ў хуткім будучым давядзецца ўстанаўліваць на прадпрыемстве і лушчыльныя нямецкія станкі.

## ЗНОЎ НЕ ПЛАЦЯЦЬ

**На два месяцы затрымліваецца выплата заробку бюджэтнікам Мастоўскага раёна.**

Напрыклад, медыцынскія работнікі не атрымалі грошай яшчэ за красавік.

**Антон МАКЕЙ**

ВОЛКОВЫСК

## АРЕСТОВАНЫ НАРКОТОРГОВЦЫ

**В результате оперативно-розыскных мероприятий по пресечению незаконного оборота наркотиков и психотропных веществ оперативной группой Управления КГБ Республики Беларусь по Гродненской области задержано двое жителей г. Волковыска при попытке сбыта около 200 граммов амфетамина.**

В их отношении возбуждено уголовное дело по ст. 238 ч. 3 УК Республики Беларусь "Незаконный сбыт наркотических средств в крупных размерах".

По оценкам экспертов, изъятая партия амфетамина является одной из самых крупных в регионе за последнее время.

**Александр ДАНИЛИН**

КРЫМІНАЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ

# КАРЦЁЖНІК

Амаль кожны вечар галынкаўская моладзь збіралася ў падвале будынка праўлення калгаса. Раней там была абсталявана спартыўная зала. Але райшоў пэўны час, і сучасная моладзь стала бавіць час доўгімі зімовымі вечарамі не за гантэлямі і штангай, а за гульнёй у карты. Гулялі на цыгарэты. Сярод заўзятых карцёжнікаў быў і 15-гадовы Яўген Пенцяк. Хлопец нярэдка прыходзіў сюды "адпачыць". У той студзеньскі вечар Яўген, як звычайна, зайшоў у падвал. У памяшканні ўжо знаходзіліся некалькі мясцовых хлопцаў. З адным з іх, Іванам Ламекам, Жэня дамовіўся згуляць у "ачко". Гульня на цыгарэта падалася ім нецікавай, і хлопцы дамовіліся, што будуць іграць на грошы. Спачатку Жэню шанцавала. Але, калі яго выйгрыш склаў амаль 50 тысяч рублёў, удача адвярнулася ад хлопца. Падлетак рашыў, што яшчэ зможа адыграцца, але з кожнай новай гульнёй сума яго пройгрышу толькі павялічвалася. А калі пройгрыш склаў 500 тысяч рублёў, хлопцы спынілі гульню.

— Я дастану грошы і вярну табе тое, што прайграў, — цвёрда сказаў Яўген Івану, і хлопцы разышліся па хатах.

Грошай, канешне, у Пенцяка не было. Чацвёрты год Жэня жыў у сваёй бабулі ў вёсцы Галынка. Маці жыла і працавала ў Гродне. Такую суму ні яна, ні бабуля яму, вядома, не далі б, тым больш на пройгрыш у карты. Таму трэба было шукаць нейкае іншае выйсце з гэтага становішча. І Жэня — як яму здалося — яго знайшоў.

Раніцай наступнага дня а палове дзевятай гадзіны юнак узяў сумку з падручнікамі і сказаў бабулі, што ідзе ў школу. Сам жа пакінуў сумку за хлявом і накіраваўся на хутар, размешчаны каля вёсцы Клімавічы. Там жыла адзінокая жанчына-пенсіянерка. Падышоўшы бліжэй да хаты, хлопец ўбачыў, што на дзвярах вісіць замок. Гэта сведчыла пра тое, што гаспадыні дома не было. Каля хаты юнак заўважыў горбу металічных жалезкаў, сярод якіх быў металічны штыр. Гэта была запчастка ад трака гусенічнага трактара. З дапамогай яе падлетак выбраў прабой у дзвярах і такім чынам патрапіў у пакой. Знайсці схованку старой жанчыны было няцяжка. Яўген падышоў да ложка і памацаў рукой пад матрацам. Там ён знайшоў тое, што шукаў: пад матрацам у пакецiку былі грашовыя купюры. Хлопец хуценька дастаў іх з пакета і паклаў у бакавую кішэню курткі. Пасля гэтага Пенцяк адразу пайшоў на калгасны мехдвор вёскі Галынка, дзе працаваў Іван Ламека.

У гэты час гаспадыня абрабаванай хаты вярнулася дамоў з зерняскладу, куды хадзіла атрымліваць ячмень. Заўважыўшы сарваны замок, жанчына адчула нядобрае. Сапраўды, у яе тайніку не аказалася 600 тысяч рублёў. Грошы былі падзелены па 200 тысяч рублёў і ляжалі ў асобных поліэтыленавых пакецiках, якія былі складзены ў адзінай торбачцы.

Тым часам Яўген Пенцяк павядаміў Івану, што прынёс доўг. Той здзівіўся, калі даведаўся пра гэта. На ўсе яго пытанні, дзе хлопец узяў такую суму, падлетак нічога не адказаў. Іван пры Жэню пералічыў грошы. Іх аказалася 536 тысяч рублёў. Усе грошы Ламека пакінуў сабе. Яўген не быў супраць, бо лічыў, што лішнія грошы — гэта працэнты за тое, што не аддаў пройгрыш адразу. Разлічыўшыся з Іванам, Жэня накіраваўся ў школу. Там ён прабыў да канца ўрокаў і пайшоў дадому.

Няпоўнагадовага злодзея супрацоўнікі міліцыі затрымалі ў той жа дзень. След яго абутку быў аналагічны са следам, выяўленым у абрабаванай хаце. На пытанне супрацоўнікаў праваахоўных органаў, куды падзеліся астатнія 64 тысячы рублёў, Пенцяк адказаць не мог. Толькі дапусціў, што мог згубіць некалькі грашовых купюраў, калі ішоў ад хаты пенсіянеркі, бо купюраў было многа, а кішэня курткі, куды паклаў грошы, не зашпільвалася.

Суд вынес прыгавор няпоўнагадоваму Яўгенію Пенцяку— тры гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай прыгавора на два гады.

**Наталля ГЛУШЭНЯ, Віталь АГАРОДНІК,**
**Зэльва**

ЗЭЛЬВА

## ЮБІЛЕЙ ШКОЛЫ

**Днямі Зэльвенская сярэдняя школа № 2 адзначыла 30-гадовы юбілей. Аднак, гэта дата ў нейкай ступені ўмоўная.**

Як сведчыць гісторыя школы, 30 год спаўняецца будынку, у якім з 1973 года размясцілася Зэльвенская сярэдняя школа.

У дваццатыя гады мінулага стагоддзя ў Зэльве адкрылася першая школа. У гады ваеннага ліхалецця школу спалілі немцы. У студзені 1952 года на месцы былога Ганненскага кірмашу гасцінна адчыніла дзверы новая школа.

Паступова колькасць дзяцей у пасёлку павялічвалася, месцаў для правядзення ўрокаў у школе не хапала. Таму ў 1973 годзе ў Зэльве была пабудавана новая вялікая ўтульная школа са спецыялізаванымі кабінетамі фізікі і хіміі, вялікай спартыўнай залай.

У 1991 годзе ў сувязі з вялікай колькасцю вучняў Зэльвенская СШ была рэарганізавана. У пасёлку з'явіліся тры школы , а мясцовая сярэдняя школа набыла статус Зэльвенскай СШ № 2. На сённяшні дзень у школе займаецца 580 вучняў, працуюць 57 педагогаў.

На ўрачыстасці ў гонар юбілею школы прысутнічалі настаўнікі-ветэраны, былыя выпускнікі, сённяшнія настаўнікі і вучні, прадстаўнікі розных арганізацый раёна. Са сваімі ўспамінамі пра школьнае жыццё падзяліўся былы дырэктар Яўгеній Васільевіч Сончык, які ўзначальваў педагагічны калектыў школы з 1967 па 1994 год.

Былая настаўніца школы Тамара Ціханаўна Капіца прыгадала першыя школьныя будні ў новай школе. Шмат цёплых словаў прагучала на адрас былых настаўнікаў ад выпускніцы Зэльвенскай СШ, а цяпер настаўніцы інфарматыкі СШ №2 Ірыны Трафімовіч.

Пра сучаснае жыццё школы, поспехі і дасягненні вучняў і педагагічнага калектыву прысутным расказаў дырэктар Зэльвенскай сярэдняй школы № 2 Юрый Анатольевіч Лізуноў.

Вучні школы падрыхтавалі да свята цікавую музычную праграму.

Сярод падарункаў, якія атрымала школа ад прадпрыемстваў і арганізацый раёна, — кампутары, тэлевізар, музычны цэнтр, ксеракс, прынтар.

**Наталля ГЛУШЭНЯ**

ВОЛКОВЫСК

## СТОЛКНОВЕНИЕ В ОТСУТСТВИЕ ВОДИТЕЛЯ

**Необычное столкновение автомобилей произошло недавно в Волковыске.**

Водитель "Опеля" оставил автомобиль во дворе дома по улице Софьи Панковой и не поставил на ручник.

В результате чего автомобиль покатился под уклон и столкнулся с автомобилем "Ауди". Обе машины получили серьёзные технические повреждения. К счастью, из людей никто не пострадал.

**Александр ДАНИЛИН**

КУЛЬТУРА

# ПРЕМИЯ ИМЕНИ БОРИСА КИТА ВРУЧЕНА ИЗВЕСТНОЙ ПИСАТЕЛЬНИЦЕ

**Известной писательнице и общественной деятельнице Ольге Ипатовой вручена ежегодная премия имени Бориса Кита.**

Выступая на торжественной церемонии, которая состоялась в Минске, в Областной библиотеке имени Александра Пушкина, профессор Берлинского свободного университета (Германия), председатель "Рабочей группы белорусско-немецких встреч" Йоханнес Шлоотц отметил, что О.Ипатова является не только известным белорусским прозаиком и поэтом, но и мужественной женщиной. "Она привнесла это мужество в литературу, привнесла в духовную жизнь Беларуси такое знаковое понятие, как свобода. Мы ценим Ольгу Ипатову, восхищаемся ей в Германии и надеемся сделать известными ее произведения в нашей стране. Мы полагаем, что эта премия упрочит белорусско-немецкое сотрудничество в области литературы", — заявил И.Шлоотц.


Фота IREX/ProMedia

*Ольга Ипатова*

В ответном слове О.Ипатова сказала, что "премия открывает перед нами новые горизонты во всем мире. Ибо имя 93-летнего Бориса Кита, который является образцом открытого всему миру современного белоруса, вдохновляет отечественных литераторов. Я посвятила ему стихотворение "Настаўнік", а Василь Быков написал "Апоцяды Барыса Кіта, расказаныя ім самім". По иронии судьбы эта публикация была последней в журнале "Полымя", который возглавлял Сергей Законников. Нынешнее "Полымя" такие произведения уже публиковать не будет". Писательница пожелала всем присутствующим бодрости, силы духа, любви к национальной идее и интеллигентности, присущих Борису Киту.

Почетного гражданина Новогрудка, заслуженного профессора Мэрилендского университета (США), обладателя золотой медали имени Оберста и многих престижных международных премий Бориса Кита во многих публикациях величают "гражданином мира". Являясь уроженцем Кореличского района Гродненской области, он был гражданином второй Речи Посполитой. Бывший директор Новогрудской белорусской гимназии стал гражданином США, всемирно известным ученым и участвовал в разработке космического топлива для корабля "Apollo". Преподаватель Виленской белорусской гимназии сейчас живет во Франкфурте-на-Майне (Германия).

Премия имени Б.Кита, учрежденная "Рабочей группой белорусско-немецких встреч", вручается писателям и ученым, журналистам и студентам, известным своей демократической деятельностью в Беларуси.

В нынешнем году наряду с О.Ипатовой премией отмечен доктор медицины из Гродно Андрей Майсеёнок.

**БелаПАН**

ВОРОНОВО

## СТО КАПСУЛ С РТУТЬЮ НАЙДЕНО ВОЗЛЕ ДЕРЕВНИ

**Сотрудники МЧС изъяли около ста капсул с ртутью, обнаруженных в Вороновском районе.**

По данным пресс-службы МЧС, около ста пластмассовых капсул диаметром в один сантиметр и длиной в полтора сантиметра были найдены местными жителями предположительно 25 мая на поле колхоза "Правда" недалеко от деревни Сурканты. С начала недели капсулы распространились по деревне, а 28 мая появились в школе деревни Пелясы. Одна из капсул разбилась, и ртуть разлилась по классу.

На месте происшествия спасатели собрали около двух граммов ртути, провели демеркуризацию 17 квадратных метров помещений школы. В общей сложности подразделения МЧС изъяли около ста капсул с ртутью. Произведенные замеры показали, что ни в школе, ни на открытом воздухе превышения предельно-допустимой концентрации ртути не зарегистрировано. Никто из жителей деревни и учащихся школы не пострадал, угрозы для здоровья людей и экологии не существует.

**БелаПАН**

ГРОДНО

## МЕДИКИ НЕ МОГУТ ОПРЕДЕЛИТЬ ИСТОЧНИК ЗАРАЖЕНИЯ ДЕТЕЙ МЕНИНГИТОМ

**Медики, как и раньше, не могут назвать точный источник массового заражения детей серозным менингитом в Гродно.**

Об этом на пресс-конференции 29 мая заявил Николай Кендыш — главный врач Гродненского городского центра гигиены и эпидемиологии. Медики отвергли информацию о том, что источниками заболевания стали кисломолочные продукты.

На сегодняшний день в Гродно зарегистрировано 198 случаев заболеваний острой вирусной инфекцией, 181 человек госпитализирован. В связи с выздоровлением, выписано 37 человек. Большая часть больных — дети от 2 до 14 лет.

Врачи считают, что пик заболевания серозным менингитом в Гродно прошел. "Максимальное количество заболеваний зафиксировано 23 мая, сегодня к нам обращаются с подозрениями на инфекцию около 20 человек ежедневно", — сказал Николай Кендыш.

Он также подтвердил, что аналогичные заболевания зафиксированы и в Гродненском районе. Однако, считает Кендыш, "нельзя сказать, что серозный менингит вышел за пределы города, потому что все эти люди постоянно проживают в Гродно".

Пока точный источник заражения энтеровирусной инфекцией неизвестен. По словам Николая Кендыша, "инфекция находится во внешней среде". "Причиной массового заражения, на наш взгляд, стала погода. В Гродно не было этой весной вспышки заболевания гриппом и острыми респираторными вирусными инфекциями как в других городах, поэтому, мы считаем, что нынешние перепады температуры привели к проявлению у детей симптомов менингита", — сказал специалист.

Н.Кендыш обвинил представителей СМИ "в раздувании проблемы". По его словам, "ситуация с заболеванием была самая обычная, люди стали массово обращаться в медицинские учреждения только благодаря прессе".

На пресс-конференции были представлены профилактические меры, проводящиеся медицинской и санитарно-эпидемиологическими службами для того, чтобы остановить рост числа заболеваний серозным менингитом.

В частности, запрещена поставка в предприятия торговли и организованные детские коллективы нефасованных молочных продуктов и реализация всех видов разливных напитков на предприятиях, не обеспеченных одноразовой продукцией; на рынках запрещена торговля нефасованными пищевыми продуктами; введен повышенный режим пастеризации молока; остановлено производство непастеризованного пива на Гродненском пивзаводе.

**Иван ПАВЛЁНОК**

РЕЛИГИЯ

## ОШТРАФОВАЛИ ЗА ПРОВЕДЕНИЕ ЕВАНГЕЛИЧЕСКИХ СОБРАНИЙ

**Административная комиссия Молодечненского горисполкома (Минская область) оштрафовала по статье 193 (нарушение законодательства в области свободы вероисповедания) Кодекса об административных правонарушениях Беларуси пастора Гродненского областного объединения Союза христиан веры евангельской (ХВЕ) Михаила Балыка.**

Он признан виноватым в том, что "проводил евангелические собрания в нарушение установленных законодательством правил" и обязан заплатить штраф в размере 26 000 рублей.

Как сообщили БелаПАН в незарегистрированном информационном центре "Свобода совести", в начале мая в дом, который арендуют верующие церкви ХВЕ, пришли двое сотрудников милиции и работник исполкома из управления по делам религии. В это время в помещении находился только священник Гродненского объединения Союза ХВЕ, в отношении которого и был составлен протокол о незаконном проведении богослужения. Примерно через неделю, когда М.Балык приехал в Желудок (Щучинский район Гродненской области) навестить знакомых верующих, к ним зашел местный участковый и попросил показать свидетельство Союза ХВЕ. Увидев, что Михаилу Балыку "поручено проведение евангелических богослужений", милиционер составил протокол о незаконном проведении церковной службы. Однако, подписывая документ, пастор отметил, что никакого богослужения не проводилось. В протоколе отмечается, что М.Балык еженедельно в воскресенье организует и проводит евангелические собрания и другие церемонии культа "в нарушение установленных законодательством правил".

20 мая Михаила Балыка пригласили на административную комиссию по месту жительства, но по причине болезни председателя комиссии заседание перенесли на 27 мая. Как сообщают представители незарегистрированного информационного центра "Свобода совести", 27 мая М.Балыку без рассмотрения дела передали постановление, датированное еще 20 мая, по которому он оштрафован на 26 000 рублей.

**БелаПАН**

МАСТЫ

## ЮНАЯ ДАІСТКА

**Дзевяцікласніца Чарлёнскай школы Мастоўскага раёна Аляксандра Зенчанка прыняла ўдзел у конкурсе па веданні правілаў дарожнага руху, які праводзіла міліцэйская газета "На страже", і паказала добрыя веды.**

Для яе была арганізавана паездка ў Мінск для атрымання прыза.

**Антон МАКЕЙ**

ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

# ПРА ТОЕ, ЯК СЛОНІМЦЫ МІНСК "БРАЛІ"

**"Дынама-Юні" (Мінск) — "Камунальнік" (Слонім), 1:5 (0:2)**

**31 траўня. Мінск. Стадыён "Змена". 100 гледачоў.**

**Суддзя:** І. Крук (Маладзечна).
**"Камунальнік":** Канашэвіч, Скляр, Вольскі, Горбач, Асіпенка, Варанцоў (83, Куцко), Срыбненка, Астапчык, Яўсеенка (66, Цішчанка), Аначэнка (К), Місюк (65, Цыганенка).
**Галы:** Срыбненка, 37, 84; Місюк, 41; Варанцоў, 60; Цыганенка, 82; Захаранка, 78.
**Папярэджанні:** Каваленка, 4; Варанцоў, 25.
**Удары па варотах:** 11 (5+6) — 13 (5+8).
**Удары ў "рамку":** 4 (2+2) — 9 (4+5).
**Вуглавыя:** 5 (3+1) — 3 (0+3).
**Афсайды:** 1 (0+1) — 3 (2+1).
**Фалы:** 22 (15+7) — 21 (10+11).

Гульня ў Мінску распачалася занадта ўжо спакойна. Ці то саپернікі не спяшаліся раскрываць усе свае казыры, але першыя дзесяць хвілін матча прайшлі нецікава.

Ажыўленне на полі стала прыкметна толькі пасля таго, як гаспадары збілі з ног Срыбненку. Штрафны ўдар метраў з 23-х выконваў сам пацярпелы, ды толькі ў штрафной плошчы мінчан нападаючыя "Камунальніка" як след разабрацца з мячом не здолелі.

Пасля гэтага дынамаўцы актывізаваліся. Двойчы яны прабівалі галавой з межаў штрафной плошчы слонімцаў, але мяч праходзіў значна вышэй нашых варот. І яшчэ два ўдары запар з сярэдняй дыстанцыі здолеў адбіць Канашэвіч. Ён увогуле згуляў надзейна на працягу ўсяго матчу.

Не ўсё атрымлівалася ў "Камунальніка" ў атацы, а вось ў сярэдзіне поля Срыбненка і Яўсеенка трымалі саперніка ў пастаянным напружанні. Менавіта гэтыя футбалісты мелі непасрэднае дачыненне да двух галоў слонімцаў, якія былі забіты ў першым тайме.

Але спачатку "Камунальнік" страціў дзьве стопрацэнтныя магчымасці адкрыць лік на 35-й хвіліне. Павел Яўсеенка навесіў мяч на штрафную гаспадароў, двойчы ва ўпор білі нашыя ігракі па варотах "Дынама-Юні" і двойчы траплялі ў варатара.

Здавалася, пасля гэтага можна было чакаць гола ва ўласныя вароты, але праз дзве хвіліны слонімцы рэабілітаваліся.

Усё той жа Яўсеенка падае справа, варатар дынамаўцаў мяч адбівае, але першым на дабіванне паспявае Іван Срыбненка, бездакорны ўдар, і лічбы на табло змяніліся на карысць "Камунальніка", 0:1.

Яшчэ чатыры хвіліны спатрэбілася слонімскім футбалістам, каб падвоіць лік. І здарылася гэта зноў пасля розыгрышу стандартнага становішча. На гэта раз ад сярэдняй лініі поля штрафны прабіваў Срыбненка. Мяч патрапіў да Місюка, і той свайго шанцу не ўпусціў, 0:2.

Другі тайм у першыя 15 хвілін быў падобны на пачатак першага. Госці нібыта выманьвалі дынамаўцаў, каб правесці контратаку.

Нешта падобнае атрымалася на 60-й хвіліне гульні. "Камунальнік" зарабіў вуглавы. Выконваць яго накіраваўся Срыбненка. Пасля яго падачы мяч слізгануў па галаве Місюка і лёг прама на нагу Леаніду Варанцову. Варатар гаспадароў поля дапамагчы сваёй камандзе не здолеў, 0:3.

Праведзеныя трэнерам слонімцаў замены крыху змянілі малюнак гульні "Камунальніка". Дынамаўцы скарысталіся гэтым і забілі гол у адказ. Але гэта толькі дабавіла злосці іх сапернікам. Канцоўка матчу прайшла пад дыктоўку слонімскіх футбалістаў.

80-я хвіліна — Варанцоў не здолеў дабіць мяч пасля розыгрышу штрафнога.

82-я хвіліна — Варанцоў падае злева ў штрафную "Дынама-Юні", і Цыганенка апраўдвае свой выхад на замену, 1:4.

84-я хвіліна — вострая атака "Камунальніка". Скляр, які апынуўся на яе вастрыні, аддае трапны пас на Срыбненку. Той метраў з 28-мі прабівае ў дальнюю "дзявятку". Варатар мінчан відавочна быў гатовы парыраваць мяч, але "плямісты" рыкашэтам ад галавы абаронцы дынамаўцаў мінае варатара і апускаецца ў вароты, 1:5.

І гэта яшчэ не ўсё. "Камунальнік" зламіў сваю гульню, і слонімцы маглі вызначыцца яшчэ, як мінімум, аднойчы. Цыганенка мог забіць шосты гол пасля пасу справа ад Цішчанкі, але, спрабуючы згуляць прыгожа, толькі квола перапраўіў мяч прама ў рукі варатара.

Буйная перамога "Камунальніка" на выездзе заслугоўвае павагі. Але ж насцярожвае нестабільнасць гульні каманды. І сапраўдныя выпрабаванні чакаюць слонімцаў у гульнях з лідэрамі чэмпіянату.

**Валерый КАВАЛЕНКА, Аляксандр ЗАХАРАНКА (статыстыка).**



*Аляксандр Вольскі віншуе Андрэя Місюка з другім голам "Камунальніка" у вароты мінчан*



*У барацьбе за мяч Леанід Варанцоў (справа)*



*Іван Срыбненка (на першым плане) — аўтар "дубля" — быў актыўным на працягу ўсёй гульні*

**ВЫНІКІ АСТАТНІХ МАТЧАЎ 7-ГА ТУРА:**

Нёман — МТЗ-РЫПО, 0:4
Ліда — Бяроза, 5:1
Хімік — Пінск-900, 2:0
Вертыкаль — ЗЛіН, 1:0
Тарпеда-Кадзіна — Граніт, 2:2
Смаргонь — Ведрыч-97, 0:1
Днепр-ДЮСШ-1 — Лакаматыў, 1:2

**Турнірная табліца пасля 7-га тура**

| | | гульні | В | Н | П | ачкі | мячы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Лакаматыў | 7 | 5 | 1 | 1 | 16 | 12-5 |
| 2. | МТЗ-РЫПО | 7 | 5 | 0 | 2 | 15 | 14-4 |
| 3. | ЗЛіН | 7 | 5 | 0 | 2 | 15 | 13-5 |
| 4. | Ведрыч-97 | 7 | 5 | 0 | 2 | 15 | 13-6 |
| 5. | Хімік | 7 | 4 | 2 | 1 | 14 | 10-5 |
| 6. | Смаргонь | 7 | 4 | 0 | 3 | 12 | 13-4 |
| 7. | Граніт | 7 | 3 | 3 | 1 | 12 | 10-6 |
| 8. | Камунальнік | 7 | 3 | 2 | 2 | 11 | 8-6 |
| 9. | Ліда | 7 | 3 | 1 | 3 | 10 | 13-7 |
| 10. | Нёман | 7 | 3 | 0 | 4 | 9 | 9-16 |
| 11. | Вертыкаль | 7 | 2 | 2 | 3 | 8 | 3-5 |
| 12. | Тарпеда-Кадзіна | 7 | 2 | 1 | 4 | 7 | 6-10 |
| 13. | Днепр-ДЮСШ-1 | 7 | 1 | 2 | 4 | 5 | 3-11 |
| 14. | Бяроза | 7 | 1 | 2 | 4 | 5 | 4-16 |
| 15. | Пінск-900 | 7 | 1 | 0 | 6 | 3 | 3-13 |
| 16. | Дынама-Юні | 7 | 1 | 0 | 6 | 3 | 8-23 |

ПРЕДСТАВЛЯЕМ СОПЕРНИКА

## ЖДЕМ ПЕРВОЙ ПОБЕДЫ

**В воскресенье, 8 июня, на слонимском стадионе «Юность» состоится матч «Коммунальник» — «Торпедо-Кадино» (Могилев).**

**Баланс предыдущих встреч:** 4 игры, +0=2-2, мячи 2:4 (в Слониме — 2 игры, +0=1-1, мячи 1:2).
**Бомбардиры:** Евсеенко, Вольский — по 1; Горбачев — 2.

Футбольный клуб из Могилева — один из старейших в белорусском футболе. Основан в 1959 году.

В чемпионатах Республики Беларусь выступает с 1992 года. В первой лиге играет с 2001 года. Провел 64 встречи: +25=11-28, мячи 74:81. Лучшее место — 5-е (2001), худшее — 20-е (2002). Самая крупная победа в лиге — 7:0 (над «Осиповичами» 21.09. 2002), самое крупное поражение — 0:4 (от «Торпедо» Жодино, 13.10.2001; от «Дариды», 3.07.2002; от «Динамо-Юни», 7.07.2002).

Главный тренер команды Михаил Басс (3.04.1947) не покидает клуб с момента старта в чемпионатах Беларуси. Один из его помощников Алексей Шубенок (15.09. 1961) не один сезон проработал в Слониме.

Старожилами команды и первой лиги являются Ярослав Свердлов (28 игр, 2 забитых мяча), которому через 3 дня после игры в Слониме исполнится 35 лет; полевые игроки Игорь Горбачев (26 лет; 62, 7), Андрей Терпило (27; 146, 1), Владимир Терещенко (29; 55, 3), любимец слонимских болельщиков Георгий Татарашвили (31; 119, 44). Остальные могилевские футболисты не старше 23-х лет.

«Комунальник» еще ни разу не побеждал «Торпедо-Кадино». Приглашаем любителей футбола поддержать слонимскую команду в игре против неудобного соперника.

Начало встречи в 17.00.

**Александр ЗАХАРЕНКО**

**ЦИФРЫ ПО ПОВОДУ**

• Футболисты «Коммунальника» провели в первой лиге 110-й матч в гостях, одержали 35-ю победу, забили 125-й мяч и набрали в сумме 130 очков. Баланс выступлений слонимчан на выезде: +35=25-50, мячи 125:152.

• И. Срибненко забил в игре против «Динамо-Юни» 2 мяча. Он стал 18-м игроком команды, сделавшим «дубль». Лидируют по этому показателю Д. Балашов и Г. Татарашвили — (по 4).

• «Коммунальник» одержал 28-ю крупную победу в чемпионатах и 5-ю со счетом 5:1. До этого в гостях так крупно команда выигрывала у витебского «Строителя» (1994/95), дома — у ФК «Кобрин» и «Строителя» (Старые Дороги, 1996), у «Витьбич-Динамо-Энерго» (Витебск, 1999).

• Первый гол И. Срибненко стал 150-м мячом, забитым на полях соперников во всех лигах Беларуси.

**Александр ЗАХАРЕНКО**

ЧЭМПІЯНАТ ВОБЛАСЦІ

# ПАДРЭЗАЛІ КРЫЛЫ ЛІДЭРУ

**ФК "Слонім" — СК "Ваўкавыск", 3:2.**

**1 чэрвеня. Слонім. Стадыён "Дынама". 200 гледачоў.**

**Суддзя:** С. Юцэвіч (Гродна).
**ФК "Слонім":** Берг, Сямёнаў (К), Дабрыян, Боцік, Снапко, Малчанаў (88, Лунь), Рудзько, Дзегіль, Лапко (46, Сівоха; 85, Цімафейчык), Герасімчык, Захажэўскі (46, Нічыпаровіч).
**Галы ФК "Слонім":** Сямёнаў, 18; Рудзько, 41; Захажэўскі, 43.

У Слонім ваўкавычане прыехалі ў якасці лідэраў абласнога першынства, і настрой на гульню ў іх быў адпаведны.

Гэта яны пацвердзілі ўжо на 3-й хвіліне сустрэчы, калі павялі ў ліку, 0:1. 15 хвілін спатрэбілася гаспадарам, каб аднавіць раўнавагу. Зрабіў гэта прыгожым ударам са штрафнога капітан слонімцаў Аляксандр Сямёнаў. Мяч, як нож скрозь масла, прайшоў праз натоўп футбалістаў у штрафной гасцей і дакладна ўляцеў у правы ніжні ад варатара вугал.

Госці яшчэ раз выйшлі наперад праз 10 хвілін. А потым прыйшла чарга паказаваць майстэрства ў атацы слонімцам. Спачатку Рудзько на дабіванні ўкалаціў мяч у "дзевятку", 2:2. А вывеў каманду наперад Захажэўскі, 3:2.

Матч так і скончыўся з лікам першага тайма, хаця і было небяспечныя моманты ў другім тайме ў абедзвюх каманд. А на апошняй хвіліне сустрэчы "Слонім" меў магчымасць паставіць тлустую кропку ў гульні. Вось толькі, выходзячы два ў адзін, слонімцы прамарудзілі і згубілі рэальную магчымасць забіць чацвёрты гол.

Трэба адзначыць, што абавязкі трэнера слонімскай каманды ў гульні супраць "Ваўкавыска" выконваў Сяргей Грыб. З-за траўмы ён пакуль што не можа выходзіць на поле.

**Валерый КАВАЛЕНКА**


Фота Віталя ГІЛЯ

*Момант гульні на "Дынама" (слонімцы — у светлай форме)*

ФУТБОЛ

# СБОР НАЦИОНАЛЬНОЙ КОМАНДЫ БЕЛАРУСИ ПО ФУТБОЛУ

**2 июня в спорткомплексе "Стайки" под Минском начнется учебно-тренировочный сбор национальной команды Беларуси по футболу в преддверии очередных отборочных матчей чемпионата Европы 2004 года.**

7 июня белорусы примут в Минске сборную Голландии, а 11 июня встретятся в гостях с командой Австрии. Тренерский штаб команды во главе с Эдуардом Малофеевым планирует вызвать на сбор следующих футболистов:

**вратари** – Геннадий Тумилович ("Антверпен", Бельгия), Василий Хомутовский ("Металлист", Харьков, Украина), Юрий Цыгалко ("Динамо", Минск);

**защитники** – Андрей Островский ("Арсенал", Киев, Украина), Александр Храпковский ("Сокол", Саратов, Россия), Александр Лухвич ("Торпедо", Москва, Россия), Сергей Омельянчук ("Арсенал", Киев, Украина), Сергей Штанюк ("Сток-Сити", Сток-он-Трент, Англия), Владимир Шунейко ("Левски", София, Болгария), Андрей Лаврик ("Динамо", Санкт-Петербург, Россия);

**полузащитники** – Сергей Гуренко ("Пьяченца", Италия), Андрей Милевский ("Динамо", Минск), Александр Кульчий ("Шинник", Ярославль, Россия), Денис Ковба ("Крылья Советов", Самара, Россия), Максим Ромащенко ("Газиантепспор", Турция), Александр Глеб ("Штутгарт", Германия), Валентин Белькевич, Александр Хацкевич (оба – "Динамо", Киев, Украина);

**нападающие** – Виталий Кутузов ("Спортинг", Лиссабон, Португалия), Максим Цыгалко ("Динамо", Минск), Роман Василюк ("Спартак", Москва, Россия).

Кроме того, к подготовке могут быть подключены полузащитники Виталий Володенков, Сергей Ковальчук (оба – "Динамо", Минск), Игорь Чумаченко и Дмитрий Лихтарович (оба – БАТЭ, Борисов).

После четырех игр сборная Беларуси занимает четвертое место в третьей отборочной группе, набрав три очка. Подопечные Э. Малофеева проиграли сборным Голландии (0:3), Австрии (0:2) и Чехии (0:2) и победили футболистов Молдовы (2:1).

**Дмитрий ВЛАСОВ**

В ДЕНЬ ДЕТСТВА

# ГИМНАСТИЧЕСКОЕ ШОУ В ПАРКЕ

**Главными действующими лицами праздника Дня защиты детей, который прошел в воскресенье в городском парке, были, конечно же, сами юные слонимчане. В том числе и воспитанники детско-юношеской школы №1.**

Восхищение вызвало у зрителей выступление девочек из отделения художественной гимнастики (тренер Елена Макарская).

Самые маленькие из них – Настя Фролова (СШ №2), Саша Войтешко (СШ №5) и Ульяна Завацкая (СШ №5) – дебютировали с новыми программами. И пусть мастерства им еще не вполне хватает. Зато есть на кого равняться, – на своих старших подруг, которые предстали перед зрителями.

Настя Чудова (СШ №3), призер чемпионата города, исполнила композицию с булавами. Бурные аплодисменты сорвала Саша Шарох (гимназия №1), член сборной Слонима. Мяч в ее руках буквально ожил и, тем не менее, был послушен гимнастке.

Завершала программу выступления девочек упражнениями с лентой Катя Игнатик (СШ №10) – призер областной спартакиады школьников.

А чуть поодаль несколько показательных боев провели слонимские боксеры. Но там в качестве зрителей больше всего толпились мальчишки.

К сожалению, спортивные мероприятия были разбросаны по разным местам. Так, одновременно с выступлениями гимнасток и боксеров, в городском спорткомплексе состоялся турнир по стритболу.

**Валерий КОВАЛЕНКО**


Фота Віталя ГІЛЯ

*Укрощение мяча в исполнении Саши Шарох*


Фота Віталя ГІЛЯ

*Лёгкость и грация. На ковре — Настя Чудова*

ВЕСЛАВАННЕ

# ХУТКАЯ ВАДА МАСТАЎЧАН

**У Брэсце адбыліся Алімпійскія дні моладзі Беларусі па веславанню на байдарках і каноэ сярод юнакоў 1987 –1988 г.н. Удзельнічалі каманды ўсіх абласцей і горада Мінска.**

З 18-ці ўдзельнікаў, якімі была прадстаўлена Гродзенская вобласць, 10 былі мастаўчане.

У выніку 2-х дзённай барацьбы месцы размеркаваліся наступным чынам: I месца – Гомельская вобласць (293 ачкі), II – Гродзенская(178), III – Мінская (129), IV – Брэсцкая (87), V – Магілёўская (62), VI – Мінск (14), VII – Віцебская (6).

Мастаўчане здабылі для сваёй каманды 129 ачкоў. Лепш за ўсіх выступілі канаісты Ткач і Конан. Яны ў двойцы былі першымі на дыстанцы 500 і 1000 метраў. У адзіночцы Сяргей Ткач быў другім на 1 000 м і трэцім на 500 м, а Конан быў другім на дыстанцы 500 м.

У эстафеце 4 па 500 м хлопцы былі другімі. На гэтай дыстанцы з імі на п'едэстал падымаўся яшчэ адзін мастаўчанін – Андрэй Карпук.

Дзяўчаты Таня Скурко і Галіна Рыбалка на байдарцы-двойцы былі другімі на 500 м і трэцімі на 1 000 м. Скурко таксама была другой у адзіночцы на 500 м. У эстафеце 4 па 500 м серабро разам з імі атрымала яшчэ адна мастаўчанка – Лена Агаджанава.

З мастоўскіх байдарыстаў Ігар Лысюк быў трэцім у эстафеце 4 па 500 м.

У выніку мастаўчане здабылі 2 залатых, 9 сярэбраных і 4 бронзавых медалі. Каманду Гродзенскай вобласці рыхтавалі да спаборніцтваў мастоўскія трэнеры Уладзімір Задолін, Вадзім Копаць і гродзенскі трэнер родам з Мастоў Аляксандр Юрэвіч.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

КУБОК БЕЛАРУСИ

# НА СТАРТЕ КУБКА БЕЛАРУСИ «КОММУНАЛЬНИК» ЕДЕТ В ЧИСТЬ

**На первой стадии (1/32 финала) нового розыгрыша Кубка Беларуси команды второй лиги будут принимать перволиговые клубы.**

Командам Гродненской области достались следующие соперники: "Коммунальник" (Жлобин) – "Сморгонь", "Забудова" (Чисть) – "Коммунальник" (Слоним), "Осиповичи" – "Неман" (Мосты).

**Дмитрий ВЛАСОВ**

ХОККЕЙ

# ЯГР ЗАБЫЛ ЗАПЛАТИТЬ ТРИ С ЛИШНИМ МИЛЛИОНА ДОЛЛАРОВ

**Чешского нападающего "Вашингтона" Яромира Ягра обязали заплатить 3 миллиона двести семьдесят тысяч долларов, которые он забыл выплатить в качестве налогов в 2001 году.**

Напомним, что только в последнем сезоне чешская суперзвезда "Вашингтон Кэпиталз" заработала более 10 миллионов долларов.

**news.sport-express.ru**

# ТОЛЬКО РАЗ В ГОДУ...

**Ничего нового для детей в День их же защиты взрослые дяди и тети не придумали и в этом году.**

Нет, поверьте, ничего против концерта, школьной ярмарки, конкурса рисунка на асфальте, выступлений спортсменов, игровых программ, подготовленных сельскими домами культуры, я не имею. Но, повторяясь из года в год, все это набивает оскомину. Кроме того, пришлось услышать нарекания в адрес организаторов. Неужели райисполком не мог сделать раз в году аттракционы для детей бесплатными, оплатить использование мотороллеров и микроавтомобилей? Тем более, что собственных подобных развлечений в Слониме уже давно нет, и не по вине горожан.

И все же, люди в прошлое воскресенье в парк потянулись. Прекрасная погода, музыка со всех сторон, красивые люди, веселые дети. Добавить бы еще оригинальности и размаха, и можно говорить, что праздник удался.

**Валерий КОВАЛЕНКО**


Фота Віталя ГІЛЯ

*С ветерком на каруселях*


Фота Віталя ГІЛЯ

*Чей рисунок на асфальте будет лучше?*


Фота Віталя ГІЛЯ

*Мы с подружкой не скучаем*




Фота Вольгі ШЫНКЕВІЧ

## ПРОГНОЗ ПОГОДЫ по Гродненской области

**4 июня:**

Переменная облачность, без осадков. Ветер неустойчивый 2-7 м/с.
Температура воздуха ночью +5+10, днём +21+26.

**5-6 июня:**

Переменная облачность, преимущественно без осадков, лишь днём **06. 06** местами кратковременные дожди, грозы.
Ветер южный 4-9, при грозах порывы до 14 м/с.
Температура:
**05. 06** ночью +10+15, днём +25+30.
**06. 06** ночью +13 +18, днём +21 +26.

Информацию предоставил Гродноблгидрометеоцентр


**Газета Слонімская**
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.

ЗАСНАВАЛЬНІК
**Віктар ВАЛАДАШЧУК**
ВЫДАВЕЦ
**УП "ГАЗЕТА СЛОНІМСКАЯ"**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР** Віктар ВАЛАДАШЧУК
**НАМЕСНІК ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА** Сяргей ЧЫГРЫН
**АДКАЗНЫ САКРАТАР** Мікола КАНАНОВІЧ
**ЖУРНАЛІСТЫ** Вольга ШЫНКЕВІЧ, Валерый КАВАЛЕНКА
**ФОТАКАРЭСПАНДЭНТ** Віталь ГІЛЬ
**ЮРЫСКАНСУЛЬТАНТ** Сяргей ГЕРАСІМЧЫК
**ГАЛОЎНЫ БУХГАЛТАР** Аляўціна СІДАРАВА
**БУХГАЛТАР** Ганна ВАРАНОВІЧ
**ВЁРСТКА І ДЫЗАЙН** Аляксей ГАРАЙНАЎ, Аляксей ВАРАНОВІЧ
**КАРЭКТАР** Галіна КЛІНЦЭВІЧ
**АДДЗЕЛ ПАДПІСКІ І РАСПАЎСЮДЖВАННЯ**
**Загадчык:** Анатоль ВАЛАДАШЧУК
**Супрацоўнік:** Валерый КАРАБЕЙНІКАЎ



**Тэлефоны рэдакцыі:**
**2-14-39, 2-49-39, 4-79-34**

**Наш адрас:**
**231800, г.Слонім, вул. Камсамольская, 8.**





**e-mail:** gs@promedia.by
**http://**gs.promedia.by


**ГРАФІК ПРЫЁМА РЭКЛАМЫ:**

**Панядзелак – пятніца**
з $9^{00}$ да $18^{00}$;
**Нядзеля**
з $11^{00}$ да $16^{00}$
**Выхадны — субота**

Апошні тэрмін падачы рэкламы ў чарговы нумар і ўнясення змяненняў у рэкламу
**Панядзелак — $18^{00}$**

**Падпісныя індэксы:**

***64042*** **(індывідуальная)**
***63818*** **(ведамасная)**
***63646*** **(льготная)**




**Падпісана да друку**
3 чэрвеня 2003г.
Час падпісання 18:00.
Заказ № **1749**

**Надрукавана**
ў Гродзенскім абласным унітарным прадпрыемстве "Слонімская друкарня",
г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.
Аб'ём – сем друкаваных аркушаў